# СВАБОДНАЕ СЛОВА

ЛІПЕНЬ 2000 № 90

Матэрыялы друкуюцца ў скарачэнні


# ЗАЯВА

## Каардынацыйнай рады дэмакратычных сіл «Аб прызначэнні А.Лукашэнкам выбараў у ПП»

Насуперак патрабаванням беларускай дэмакратычнай грамадскасці і міжнароднай супольнасці А.Лукашэнка сваім указам прызначыў выбары ў Палату прадстаўнікоў, не выканаўшы ніводнай з умоў свабодных і справядлівых выбараў.

• Напярэдадні ўказу ўвайшло ў сілу недэмакратычнае выбарчае заканадаўства, якое не дазваляе апазіцыйным палітычным сілам беспярашкодна ўключыць сваіх прадстаўнікоў у выбарчыя камісіі і не дазваляе арганізаваць кантроль над выбарамі;

• У Беларусі няма самастойнага парламенцкага органа, які меў бы рэальныя ўладныя паўнамоцтвы;

• Уладны рэжым па-ранейшаму нішчыць свабоду слова, забараняюцца масавыя акцыі, у турмах знаходзяцца палітычныя вязні;

• Людзі, якія думаюць інакш, чым Лукашэнка, не маюць магчымасці свабодна выказваць свае меркаванні ў дзяржаўных мас-медыя.

У гэтых умовах свабодныя, справядлівыя выбары не могуць адбыцца. Будзе чарговы фарс накшталт тых «выбараў», што былі ў СССР. Такія псеўдавыбары не палепшаць становішча ў краіне, не знізяць палітычнай і сацыяльнай напружанасці.

Кіруючыся рашэннем IV Кангрэсу дэмакратычных сіл і зыходзячы з фактычнай адмовы рэжыму праводзіць справядлівыя, свабодныя выбары ў паўнамоцны парламент, сябры КРДС заяўляюць, што не возьмуць удзел у выбарчым фарсе восенню бягучага года.

Падпісалі:

*А.БУХВОСТАЎ,*
*А.БЯЛЯЦКІ,*
*Д.БАНДАРЭНКА,*
*В.ВЯЧОРКА,*
*В.ІВАШКЕВІЧ,*
*А.ЛЯБЕДЗЬКА,*
*В.ПАЛЕВІКОВА,*
*М.СТАТКЕВІЧ,*
*С.ШУШКЕВІЧ.*

# ТРЕТЬ БЕЛОРУСОВ ХОТЕЛА БЫ ЭМИГРИРОВАТЬ



БЕЛАПАН

*Минск, 17 июля.* Около трети — 31 процент — жителей Беларуси хотели бы переехать на постоянное место жительства в другую страну. Из них 10 процентов готовы эмигрировать в США, 9 процентов — в Германию, 2 процента — в Польшу и 1 процент хотел бы переехать в страны Балтии. В Россию готовы уехать 3 процента респондентов, а 6 процентов хотели бы переехать в любую другую страну.

Таковы данные опроса общественного мнения, проведенного в июне учеными Независимого института социально-экономических и политических исследований совместно с сотрудниками Центра социальных и экологических исследований. Всего на анкету ответило около полутора тысяч респондентов. При этом 68 процентов из них заявили, что никуда не хотели бы переезжать. 1 процент опрошенных затруднились ответить на предложенный вопрос.

***Леонид ИГНАТЬЕВ***

# А.ЛУКАШЭНКА НЕ ЛЯЦІЦЬ ТУДЫ,

## *дзе не прымаюць*

*Народная Воля*

22 ліпеня, на сусветнай выставе «ЭКСПА-2000» у Гановеры — Дзень Беларусі. Усе чакалі, што на афіцыйнай цырымоніі адкрыцця беларускай экспазіцыі выступіць Аляксандр Лукашэнка. Але, хутчэй за ўсё, ён не прыедзе у Гановер, таму што не атрымалася арганізаваць для яго афіцыйныя сустрэчы. Замест «бацькі» «ЭКСПА-2000» наведае віцэ-прэм'ер Андрэй Кабякоў.

Як стала вядома з дакладных крыніц, беларускі амбасадар у Нямеччыне Віктар Скварцоў спрабаваў арганізаваць для Лукашэнкі на 22 ліпеня ў Гановеры шэраг афіцыйных сустрэч. Так, беларуская амбасада рабіла захады да прэзідэнта Ландтага зямлі Ніжняя Саксонія спадара Вернштэдта. Гэта было яшчэ перад яго візітам у Беларусь, які, нагадаем, адбыўся з 10 па 16 ліпеня. Спадару Вернштэдту прапанавалі наступнае: у Мінску яго афіцыйна прымае Лукашэнка, а за гэта ў Гановеры адбудзецца афіцыйная сустрэча Аляксандра Рыгоравіча і Вернштэдта. Але прэзідэнт Ландтага Ніжняй Саксоніі не згадзіўся на такую прапанову. Ён адзначыў, што яго візіт на Беларусь — неафіцыйны і мае гуманітарны характар.

Паколькі не атрымалася з арганізацыяй афіцыйных сустрэч, то А.Лукашэнка вырашыў наогул не наведваць Гановер.

Але, хто ведае, раптам у апошні момант Аляксандр Рыгоравіч вырашыць накіравацца ў Германію на «ЭКСПА-2000». Тым больш што ў яго ўжо ёсць вопыт неафіцыйных сустрэч на перыферыі Гановерскай выставы. У 1998 годзе ён меў там неафіцыйную сустрэчу з кандыдатам на пасаду канцлера ФРГ Герхардам Шродэрам. Тады, нагадаем, дзве нямецкія камерцыйныя структуры папрасілі Шродэра сустрэцца з Лукашэнкам. Потым гэты факт даволі негатыўна каменціравалі нямецкія выданні.

***Ганна СОУСЬ***



## У НУМАРЫ:

Белапан

# ЖЕНЕ МИХАИЛА ЧИГИРЯ ПРЕДЪЯВЛЕНО ОБВИНЕНИЕ

18 июля Юлии Чигирь, супруге экс-премьера Беларуси Михаила Чигиря, предъявлено обвинение. Она обвиняется в сопротивлении работнику милиции при исполнении служебных обязанностей с применением насилия (статья 187-1, часть 2 Уголовного кодекса), а также во вмешательстве в действия работника милиции при выполнении им служебных обязанностей (статья 188-2, часть 2). По этим двум статьям Юлии Чигирь грозит до 5 лет лишения свободы. С нее взята подписка о невыезде.

19 мая 2000 года, в день оглашения приговора по делу Михаила Чигиря, официальным защитником которого является его жена, в здание суда не были допущены многие родственники, журналисты и граждане, поддерживающие экс-премьера. Люди собрались у входа в суд, возникла давка. Юлия Чигирь находилась у входа в здание, добиваясь, чтобы в суд пропустили родственников и журналистов, когда один из офицеров милиции грубо схватил ее за руку. Стремясь освободиться, женщина укусила сотрудника милиции за ухо. Судебно-медицинская экспертиза зафиксировала большой синяк, образовавшийся на руке Юлии Чигирь после грубого обращения с ней работника милиции.

Следователь прокуратуры Фрунзенского района Минска Дмитрий Шкарбута, постановивший привлечь Юлию Чигирь в качестве обвиняемой по данному уголовному делу, расценил ее действия как «воздействие на работников милиции, находящихся при выполнении служебных обязанностей по охране общественного порядка, ограничивающих проникновение в здание суда большого количества людей...». 18 июля следователь Шкарбута допросил Юлию Чигирь и потерпевшего милиционера. Он предложил обвиняемой предоставить материалы, свидетельствующие в ее пользу, в том числе видеозаписи событий у суда.

Юлия Чигирь назвала выдвинутые против нее обвинения «явным признаком маразма белорусских властей» и «позором для белорусских мужчин». Фотографию, где ясно виден синяк на предплечье, она собирается выпустить в виде плаката как символ насилия над женщиной. Свое уголовное преследование она объясняет негативным отношением лично к ней высокопоставленных чиновников государства, желанием помешать нормальной защите Михаила Чигиря, а также попытками оказать психологическое давление и выжить его семью из Беларуси.

*Геннадий БАРБАРИЧ*

Свабода

# ВЫКРАДАЛЬНІК ЧАСУ

Вынікі апошніх шасці гадоў паказалі, што заявы кшталту: «Я свой народ за цывілізаваным светам не павяду» ці абяцанні вярнуцца ў 1990-ы год, цалкам выкананыя. Але ніхто не лічыў, што гэта каштуе нашаму народу. Сацыёлагі адзначаюць устойлівы рост колькасці людзей, што жывуць горш з кожным годам. Зараз такіх болей 85%. Абвешчаны зварот у мінулае адбыўся. З кожным днём Беларусь усе далей адсоуваецца на задворкі Еўропы.

Дык што ж мы згубілі ці больш дакладна – што ў нас адабралі? Адабралі самае галоўнае, тое, што уже ніколі не вернецца, – час! Укралі не зваротную частку жыцця цэлага народа. Мы нагадваем племя дзікуноў, якія таксама ядуць, п'юць, спяць, ходзяць на паляванне (мы – на працу), але застаюцца па-за жыццём і выклікаюць здзіўленне і жаль акружаючых. «Барацьба за ўраджай» і будоўля лядовых палацаў, выкананне дэкрэтаў і нерэальных планаў – марныя, бо забіралі наш час, не даючы ўзамен нічога. Сышла ў нябыт астранамічная лічба часу. Дзесяць мільёнаў грамадзянаў Беларусі па волі аднаго палітыка марна пражылі шэсць гадоў. Мы, нацыя, згубілі разам 60.000.000 гадоў!!! Калі вымераць гэта чалавечым жыццём і ўзяць яго сярэднюю даўжыню для нашага чалавека, якая зменшылася і складае зараз каля 60 гадоў для мужчын, дык атрымліваецца, што за гэты час мы згубілі адзін мільён жыццяў!!! Па сутнасці, мільён чалавек выкінутыя з жыцця. Гэтыя людзі не стварылі нічога: не нарадзілі дзяцей, не пабудавалі дамы, не вучыліся, не вырошчвалі хлеб. Кожны дзень існавання цяперашняга рэжыму мы губляем час, які вымяраецца жыццём прыкладна 460 чалавек. Калі прадоўжыць аналогію, то атрымалася, што мы страцілі дзесятую частку нацыі. Без уліку Чарнобыля, міграцыі, хваробаў, крыміналу і г.д. Гэта сапраўдная вайна і сапраўдны генацыд супраць свайго народа. Вайна з фашыстамі забрала жыцці двух з паловай мільёнаў беларусаў. Гэта каля 150.000.000 гадоў часу. Чалавек, які хваліў Гітлера і хоча аб'яднацца з Расіяй, робіць тое самае, і калі яго не спыніць, то перагоніць настаўніка.

*Павел ЖУК*

Народная Воля

# Я ТАК И ЕХАЛА В АВТОБУСЕ, ДЕРЖА СЕЛЕДКУ ЗА ХВОСТ

Скоро уже пять лет, как мы с семьей уехали из Минска в Израиль. Уезжали от бедности и бесперспективности в стране, где родились. А нашли достаток, уверенность в завтрашнем дне для детей и внуков в государстве, для которого я сделать ничего-то не успели, но которое окружило нас заботой и уважением.

И все же... как бы ни было хорошо на земле обетованной, а ностальгия по родной Беларуси просто замучила. Меня сжигало желание увидеть Минск, друзей, побывать на родных могилах. И мы с мужем засобирались в дорогу.

Не скрою, в письмах с Родины знакомые предупреждали: подумай, стоит ли ехать в такую даль за вероятным разочарованием? Но я и слушать ничего не хотела... И вот мы летим.

Первый удар по своей ностальгии мы получили уже в аэропорту «Минск-2». В те майские дни здесь были жуткие холода, и мы с Колей — оба старики на восьмом десятке, ветераны Отечественной войны — чуть не схлопотали простуду без теплых вещей, пока нас несколько часов шмонали таможенники, потроша чемоданы...

А потом пошло-поехало... Несколько дней нас мурыжили с регистрацией, содрав за это 33 доллара и угрожая большим штрафом. На каждом шагу мы натыкались на грубость и бескультурье, от которых уже успели отвыкнуть. Я еще держалась, а Николай Григорьевич со своим мягким, застенчивым, типично белорусским характером так чуть не плакал...

Минск, конечно, по-прежнему прекрасен (таков он и в моих стихах, ему посвященных). Однако отойдешь от центра несколько шагов — и нет-нет да и увидишь неухоженность, заброшенность, бесхозяйственность. Наш бывший дом по улице Гая стоит облупленный и обшарпанный, на входе в знакомый подъезд дверь болтается на одной петле.... В магазине, куда я зашла за селедкой, меня спросили: «Мешочек есть?» И, даже заметив мою растерянность (я забыла о таком «обслуживании»), без извинений всучили мокрую рыбину безо всякой обертки. Я так и ехала в автобусе, держа в руке за хвост эту несчастную селедку, и на лице у меня была, видимо, очень глупая улыбка.

Но больше всего меня сокрушила, гвоздем вонзилась в сердце тягостная атмосфера сегодняшней белорусской жизни, озабоченные, сумрачные лица прохожих. Встречаясь с друзьями, я кожей ощутила то, о чем слышала в своем теперь уже Далеком от Беларуси краю. Во многих, очень многих домах моих земляков поселились нищета и безнадежность. Одна знакомая, кстати, медик по профессии, пригласив к себе домой, долго извинялась, что, к своему стыду, не может меня угостить...

Ей незачем было извиняться — разве я не понимаю, не переживаю за нее и за всех, кто не по своей вине обречен бедствовать? Я-то уже уехала, они остались страдать на Родине, которой отдали силы и здоровье, всю жизнь, а старшие люди защищали ее от гитлеровского нашествия. Боже, как в те суровые дни на фронте мы мечтали о жизни после Победы, когда, представлялось нам, на опаленной родной земле наступит, наконец, всеобщее благоденствие, расцветут справедливость и добро...

Увы, тем мечтам не суждено было сбыться. Прости, дорогая Беларусь, я больше сюда не приеду. Мне и так больно, бесконечно больно оттого, что я тут увидела, ощутила и поняла. Желаю тебе, незабвенная Батьковщина, обрести, наконец, достойную, счастливую долю, чтобы лица моих земляков светились гордостью и радостью.

*С сочувствием и печалью — Клара ТИХОНОВИЧ, ветеран Отечественной войны, бывшая минчанка. Израиль.*





Народная Воля

*Иван НИКИТЧЕНКО*
*профессор, член-корреспондент Национальной академии наук*

# ОБОЙДЕМСЯ ЛИ БЕЗ КАРТОЧЕК НА ХЛЕБ?

Поговорка «Хлеб — всему голова» очень верно отражает значение роли зерна в обеспечении продуктами животного происхождения и хлебопекарскими изделиями. Оптимальным считается производство на душу населения 800 кг зерна в год. Наиболее близкой к этому требованию Беларусь была в 1987 году, когда валовый сбор составил 7 миллионов 804 тысячи тонн. Достаточно высокий уровень производства был достигнут в 1989,1990 и 1992 году.

В последние 5 лет сборы зерна постоянно уменьшались. Пик падения пришелся на 1999 год. Урожайность зерновых достигла уровня середины 60-х годов, а такое малое количество собранного зерна не фиксировалось статистикой около 40 лет. Этот провал все мы сразу же ощутили в магазинах. Прежде всего резко сократилось производство и реализация продукции животноводства. Из-за недокорма скота реализация мяса уменьшилась на 73 тысячи тонн.

Потери молока также достигли примерно 400 тысяч тонн. Из-за нехватки кормов на 310 тысяч сократилось поголовье крупного рогатого скота, на 23 тысячи коров, на 80 тысяч голов свиней и т.д. Последствия этого мы еще ощутим.

Второе следствие — неимоверный рост цен. С середины прошлого года цены на мясо, молоко, на продукты из них выросли в 2—4 раза. Темпы роста цен на хлебобулочные и макаронные изделия примерно такие же. Оснований для того, чтобы ожидать хотя бы небольшого улучшения ситуации в зерновом хозяйстве, нет.

Заявления Лукашенко о производстве в 2000 году шести с половиной тысяч тонн зерна — чисто пропагандистский трюк, которым он часто грешит, зная, что никто ему о таких заявлениях не напомнит. По прогнозам специалистов, в нынешнем году может быть реально собрано лишь около 3 миллионов тонн зерна, или на 15–20 процентов меньше прошлогоднего. И вот почему. Во-первых, из 2805,7 тысячи гектаров посевов зерновых более 200 тысяч погибли из-за низких температур в северных районах и пыльных бурь на Полесье. Во-вторых, хозяйства вели сев при дефиците тракторов, грузовых автомобилей, почвообрабатывающей техники, сеялок. Имеющаяся техника простаивала из-за острой нехватки горюче-смазочных материалов. Поэтому сев затянулся на полтора с лишним месяца. Оптимальные сроки были упущены. Это отрицательно скажется на урожае.

Еще одна причина — острая нехватка зерноуборочных комбайнов. Их на 1 июня нынешнего года осталось в исправном состоянии только 8,7 тысячи штук. Нагрузка на 1 комбайн составляет 322 гектара зерновых посевов, что почти в четыре раза больше, чем в 1990 году. Поэтому при прогнозе валового сбора зерна нужно учитывать, что значительные площади обмолотят ветер, дождь, а возможно, снег и мороз.

Такое положение с обеспеченностью собственным зерном неизбежно потребует закупки его за границей. Но и здесь руководство создало ряд серьезных проблем. Госчиновники советской школы совершенно забыли, что мы живем в другое время, что в жизнь приходят экономические законы. Их необходимо соблюдать, а не ломать через колено. Если ведешь с кем-то дело, то следует быть порядочным и вовремя рассчитываться за товар. У нас наоборот.

Я уже не раз приводил пример государственного беспредела. Еще в 1997 году целый ряд российских фирм поставили на спиртзаводы страны для переработки на давальческих условиях зерно. Однако до сих пор они ничего не получили. Ибо вопреки законам, конвенции стран СНГ 1993 года чиновники налоговой инспекции, районные деятели Кореличской и Новогрудской налоговой милиции. Комитета госконтроля, «изволили» конфисковать чужое зерно и продукцию из него без суда и следствия. В число пострадавших попали 4 ростовские агропромышленные фирмы, в том числе и «Степи Приазовья». Обращения руководства Ростовской области к Лукашенко по странной случайности не попадали. И только письмо депутатов Госдумы России, включая ее председателя, легли на стол Александра Григорьевича.

Он, вместо того чтобы строго спросить с нашкодивших чиновников, предписал произвести окончательный расчет после новой поставки такого же количества зерна в Беларусь.

Я подробно об этом пишу потому, что уверен: в ближайшем будущем, накануне введения карточек на хлеб, он будет «метать громы и молнии» в адрес чиновников. Но от этого хлеба больше не станет.

Если не предпринять срочных и неотложных мер по решению зерновой проблемы, то введения карточек на хлеб и другие продукты, по-моему, не избежать.

*Алесь ПЕТРАШКЕВІЧ*




# РУПНАСЦЬ ДЗЯРЖАЎНАЙ АСОБЫ

## ПРА СУВЕРЭНІТЭТ АЙЧЫНЫ



Авантурыстаў у палітыцы безліч. Дробныя мітусяцца, кішаць унізе. Паасобныя прарываюцца наверх, а то і на самую вяршыню, авалодваюць тронамі, каронамі, шапкамі, скіпетрамі, дзяржавамі. А потым знікаюць у нябыт гэтак жа нечакана, але заўсёды заканамерна, як і ўзніклі, вытыркнуліся, вылупіліся. Але сёння гаворка не пра іх, бо не на іх трымаецца свет і людскасць паміж людзьмі. Пагаворым пра вялікага патрыёта і руплівіца нашай ліцвінскай Айчыны, чалавека і грамадзяніна, які пакінуў глыбокі след у гісторыі сваёй і суседніх нам краін найперш як дзяржаўца, палітык, дыпламат, прававед-заканадаўца, да пагляду якога і сёння маглі б звяртацца пры жаданні сучасныя нашы «руководящие товарищи», што ад імя народа кіруюць тым жа народам, не заглядаючы ў гістарычныя святцы, ад чаго ў краіне нашай квітнее бязладозе ад безгалоўя.

### Наш вялікі Лявон

Светлае імя нашага героя не без падстаў замоўчвалася пры царызме, імперыялізме, капіталізме, недаразвітым камунізме, замоўчваецца і цяпер — пры кірмашовым сацыялізме... Дазвольце прадставіць вам, шаноўныя чытачы, Льва Іванавіча Сапегу (1557-1638). Суайчыннікі называлі яго «наш Вялікі Лявоне». І было за што! Мы, сённяшнія, можам па праву назваць яго Вялікім патрыётам сваёй, гэта значыць, нашай Айчыны. Леў Сапега — адзін з прадстаўнікоў старажытнага разгалінаванага магутнага роду Сапегаў часоў Вялікага княства Літоўскага, Рускага і Жамойцкага.


Працяг будзе

# ЗША ПРА ЗНІКНЕННЕ ДЗМІТРЫЯ ЗАВАДСКАГА




Злучаныя Штаты сур'ёзна занепакоены знікненнем аператара Грамадскага расійскага тэлебачання Дзмітрыя Завадскага «ў святле іншых знікненняў у Беларусі, маючых палітычную афарбоўку». Пра гэта гаворыцца ў заяве прэс-сакратара Дзярждэпартамента ЗША Рычарда Баўчэра, распаўсюджанай прэс-службай пасольства Злучаных Штатаў у Беларусі.

У заяве сп. Баўчэр адзначае, што Д.Завадскі і П.Шарамет нядаўна вярнуліся з Чачні, дзе здымалі дакументальны фільм, а таксама нагадвае аб гучным крымінальным працэсе над супрацоўнікамі ГРТ, якія ў 1997 годзе былі асуджаны судом за быццам бы незаконнае перасячэнне беларуска-літоўскай мяжы падчас здымак дакументальнага фільма аб кантрабандзе.

«Знікненне Завадскага, — гаворыцца ў заяве Баўчэра, — значна ўзмацняе нашу занепакоенасць наконт пераследу журналістаў, абмежавання свабоды выказванняў і растучай атмасферы страху ў Беларусі. Мы вельмі занепакоены рэакцыяй высокапастаўленых беларускіх чыноўнікаў, якія назвалі гэтае знікненне правакацыяй з боку дэмакратычнай апазіцыі».

ЗША заклікаюць беларускія ўлады прытрымлівацца сваіх абавязацельстваў, нядаўна выказаных на сустрэчы Пастаяннага Савета АБСЕ ў Вене, правесці дакладнае расследаванне абставін знікнення Дзмітрыя Завадскага, а таксама ўстанавіць месцазнаходжанне Юрыя Захаранкі, Віктара Ганчара і Анатоля Красоўскага, якія зніклі без вестак летась.

***Наталля КУЛАГІНА***





**Беларуская рэдакцыя радыё «Свабода»**

| *Час* | *Частоты* | *Хвалі* |
|---|---|---|
| 6,00 | 6065 кГц | 49 м |
| | 7295 кГц | 41 м |
| | 9635 кГц | 31 м |
| | 9750 кГц | 31 м |
| 18.00 | 7295 кГц | 41 м |
| | 9635 кГц | 31 м |
| | 11725 кГц | 25 м |
| | 15565 кГц | 19 м |
| 22.00 | 6105 кГц | 49 м |
| | 9535 кГц | 31 м |
| | 9750 кГц | 31 м |
| | 11865 кГц | 25 м |

www.svaboda.org





*Надвор'е можа не падзяляць пункт гледжаньня метэаролягаў*

| Гарадзкі котка | Прагноз *USA Today* | Прагноз *Weather News* |
|---|---|---|
| Аўторак, 25 ліпеня | *Зменная хмарыстасць* Ноччу **17** Удзень **26** | *Зменная хмарыстасць* Ноччу **14** Удзень **25** |
| Серада, 26 ліпеня | *Дажджы* Ноччу **21** Удзень **25** | *Дажджы* Ноччу **19** Удзень **24** |
| **Пятніца, 27 ліпеня** | *Зменная хмарыстасць* Ноччу **19** Удзень **26** | *Зменная хмарыстасць* Ноччу **20** Удзень **26** |

**Выдавец: Віцебскае аддзяленне ГА «Фонд імя Л. Сапегі»**
**СВАБОДНАЕ СЛОВА**
**Адрас рэдакцыі: Віцебск пр-т Чарняхоўскага, 12-17**
**Рэдактар: Х.Жэляпаў** +©barsdesign2000
Распаўсюджваецца бясплатна